# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 31 (283) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 30 ЛІПЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

## САМАДЗЕЙНІКАМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ АД ГРОДЗЕНСКІХ СЯБРОЎ



Нядаўна наведаў Беласточчыну самадзейны ансамбль песні і танца Гродзенскага дома культуры. Беларускія артысты давалі свае канцэрты ў Беластоку і другіх гарадах ваяводства. Усюды іх прымалі вельмі горача, сардэчна. Сапраўды, самадзейнікам Гродзенскага дома культуры можа пазайздросціць не адзін прафесіянальны калектыў за іх высокае выкананне песень і танцаў. Пасля канцэрту ў Беластоку беларускія госці ўручылі мастацкім гурткам Беласточчыны (на рукі кіраўніка Ваяводскага дома культуры ў Беластоку) падарунак у постаці разьбы па дрэву п. з. «Вясковыя музыканты», які бачым на здымку

Фота: В. Млынчык

МАК фота: Г. Рагазінскі

## Каб вочы дзяцей смяяліся

Не расказаць і не пералічыць усіх бед і няшчасцяў ад гарэлкі. Няма такога дня, каб не гаварылася пра яе. Калі б нават сабраць усе статыстычныя даныя: колькі гарэлкі выпіта, колькі самаходаў разбіла і людзей забіла гарэлка, колькі пажараў ад яе — то і так ніколі не пакажаш усяго вялікага няшчасця, якое нясе з сабой алкаголь. Бо ці ж цыфры скажуць нам аб цярпеннях жанчыны, у якой муж п'е, ці можна якой-небудзь меркай змерыць к р ы ў д у дзяцей, бацькі якіх п'юць, замест купіць дзіцяці шакалад, добрую булку, кілаграм яблык зімою, банку рыбнай кансервы. Ці можна цыфрай паказаць здароўе чалавека, якое з'ядае алкаголь? Калі вось гэтак пачынаеш думаць, даходзіш урэшце да нейкага тупіка, з якога цяжка знайсці выхад. Людзі — істоты з розумам, здольны думаць, разважаць і вось не могуць зразумець, што гарэлка — гэта труцізна не толькі для здароўя, але для радасці, спакою, усмешкі, дабрабыту — таксама. Гэта труцізна для шчасця.

(Працяг на стар. 5)

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



На пашы фота: Г. Рагазінскі

# ЗМЯНІЛАСЯ НАШАЕ ЖЫЦЦЁ

Ліпеньскае сонца пячэ так моцна, што ў яго промнях ледзь вытрымаць можна. Па баках польнай дарожкі, якая мае мяне завесці да самай вёскі, паша падзеленая агарожай на ўчасткі, дзе-нідзе парослая старымі дрэвамі і кустарнікамі. На гэтых участках пасвіцца чырвоныя, добрай пароды, і тлустыя каровы. Далей невялічкі ўзгорак, а за ім відаць некалькі хат. Распасціраюцца палеткі ўраджайнага жыта, белымі кветкамі квітнеючая бульба, зялёны лён, каноплі, буракі, бруква, гароднiна. Усё прыгожае не толькі само па сабе для чалавечага вока, але эмоцыю прыгажосці выклікае ў сэрцы стараннае і дбайнае гаспадаранне полем і пашаю. Вось хаця б упамянутыя ўчасткі, на якіх пасуцца каровы. Няма тут пустазелля, купін, а толькі роўненька зеленее трава. І адразу думаеш, што землябобы не пакідаюць зялёных багацццяў без дагляду, але ўгнойваюць і падсяваюць іх. Аб гэтым і вядзецца ў нас разумную, фахову прапаганду...

Затрымаўшыся пры некалькіх сядзібах, я ўзіраўся навокал і шукаў вачыма вёскі. Але ўдсюль было відаць шмат палубоў, адны бліжэй, другія далей. Амаль усе пакрытыя чарапіцай, бляхай або этэрнітам.

«А дзе ж тут вёска Вялікія Пасечнікі?» — мімаволі я задаваў сабе пытанне. Але на адным з панадворкаў угледзеў старэйшага чалавека, які сядзеў з малым дзіцём.

— Вы да солтыса?

— Не, да ўсіх, каго толькі сустрэну... Гэта вёска Вялікія Пасечнікі?

— Так, як бачыце, параскідана па полі. Яе ў нас называюць таксама Мескі Лес, бо калісьці тут раслі лясы, якія належалі да горада Бельска. Нашыя хаты называюць людзі «Стэпкі» або Лаўрыновічы (ад нашага прозвішча), а там вось Галёнкі (ад прозвішча Галёнка). У нашых Пасечніках амаль усе называюцца Лаўрыновічы і Галёнкі...

— Моцна змянілася нашае жыццё за народнай улады, — гаворыць мой субяседнік Рыгор Лаўрыновіч. — Маем электрычнасць, шмат розных машын, гадуем многа кароў і свіней. Цяпер хапае пашы, бо дзяржава правяла ў нас меліярацыю! Маем за што купіць штучныя ўгнаенні, якія цяпер у модзе ў нас. Можна сказаць, што адбудавалісь, бо ўсё было разбуранае, занядбанае.

### МЕЛІЯРАЦЫЯ

Вялікія Пасечнікі ў сапраўднасці не вельмі вялікія, налічваюць толькі 37 гаспадарoў, а ўсіх жыхароў тут 183. Яны гаспадараць на 162 гектарах ворнай зямлі і 239 га сенажацяў і пашы. У даваенны перыяд хапала толькі сухога хлеба на цэлы год. Праца на полі была цяжкая; не было ніякіх машын, усё трэба было рабіць уручную. Нават на 10-гектаровай гаспадарцы трымалі толькі 1 або 2 каровы, якія ледзь жылі, не хапала корму. Каля 130 га балотністабагонных сенажацяў лічыліся толькі сенажацямі. Пасобныя гаспадары мелі толькі па два — чатыры вазы сена. Яны звярталіся не раз да ўлад аб дапамозе ў асушцы, але з гэтага рабіліся толькі насмешкі.

Першыя гады народнай улады. Жыхары В. Пасечнікаў сабіраюцца да купы. Памалу адбудоўваюцца. Нармальны спакой час ад часу парушаюць лясныя банды. Але і ў гэтыя цяжкія гады яны не забываюць аб сваіх гаспадарках і імкнуцца здзейсніць свае планы асушкі балота. З дапамогай прыходзіць улада. У гадах 1946 — 1947 раённае меліярацыйнае прадпрыемства з Бельска Падляшскага праводзіць пасечнікаўцам меліярацыю. Дапамагаюць таксама самі грамадскім чынам. Аляксей Лаўрыновіч арганізуе суполку ў загаспадараванні сенажацяў. Першае насенне травы ён прывозіць ад вядомага травa

(Працяг на стар. 4)

## Пазнаем народы Афрыкі




У час вайны супроць паўночнаамерыканскім каланіялістам, у брытанскую армію і флот было прынята многа неграў. Апрача таго ў Англію прыязджалі тыя рабы, якія ўцякалі з Амерыкі. Пасля сканчэння вайны не вядома было, што з гэтымі людзьмі зрабіць.

У 1786 годзе др Генры Сміт параіў выслаць неграў у... Афрыку.

«Філантропі» ўсёй краіны так захапіліся гэтым дасціпным замыслам, падтрымалі яго прапанову, а ўрад не супрацівляўся гэтаму праекту.

Для гэтай мэты выбралі заліў каля ракі Рокель у Заходняй Афрыцы, якая была сховішчам для піратаў. Прадстаўнікі «філантропаў» адкупілі ад караля Тамбо, правадыра племя Тэмнэ, дваццаць квадратных міль на гарыстым паўвостраве, за цану некалькіх стрэльбаў, некалькіх бутылак руму і гафтаваную камізэльку. На пачатак паслалі там 400 неграў. Аднак і ў арміі і ў флоце, а таксама сярод бежанцаў не было жанчын. Каб хаця часткова дапамагчы развіццю новай калоніі, выкананы быў праект, які не меў прэцэдэнту і не паслужыў прыкладам для другіх.

У Лондане была зроблена аблава, у выніку якой злапалі каля 60 жанчын лёгкіх паводзін і выслалі іх у новаўтвораны пасёлак... як жонкі для неграў.

20 год пазней таварыства «філантропаў» адказалася ад сваіх правоў да гэтага пасёлка, перадаючы яго ўраду, як новую калонію Вялікабрытаніі.

У гэтую калонію былі накіраваны ўсе тыя негры, якія былі адабраны гандлярам жывым таварам. Жыхары пасёлка, які назвалі «Фрытаун», склалі дзіўную мешаніну людзей. Яны паходзілі з розных негрыцянскіх плямён, мелі розныя мовы. Паўстала патрэба ўтварэння супольнай мовы. Паколькі ўсе па-троху ведалі англійскую мову, таму яна была адной, пры дапамозе якой маглі карыстацца між сабою. Англійская мова, узбагачаная негрыцянскімі мовамі, пераўтварылася ў мову Крыо, якая зараз мае бедную але ўласную літаратуру.

Дзіўнае гэта грамадства назвала сябе Крэоламі.

З цягам часу да гэтай калоніі далучылі новыя землі, на якіх пражывалі народы Тэмнэ, Мэндэ, Каранка і іншыя.

Англійская калонія, аб якой вышэй мова, называецца Сьера-Леона і знаходзіцца ў Заходняй Афрыцы. У Сьера-Леона пражывае толькі каля 600 белых людзей. З гэтага выпадку расавай дыскрымінацыі амаль што не заўважаецца.

эСКа

Працяг са стар. 2

з хуткасцю 56—70 метраў у секунду, гэта значыць 200—250 кіламетраў у гадзіну. Будынкі заўсёды заносіла многаметравымі гурбамі. Пры гэтым, снег хутка спрасоўваўся ціскам ветру да такой шчыльнасці, што дрэнна паддаваўся лапатам. Яго толькі можна было калоць ламамі на аддзельныя кускі.

1 Мая 1958 года зімоўшчыкі правялі першамайскую дэманстрацыю ў цэнтральным раёне Антарктыды. На станцыі Савецкая была палярная ноч, тэмпература ўпала да 74 градусаў ніжэй нуля.

Вялікі ўклад у вывучэнне Антарктыды быў унесены савецкімі палярнікамі ў час паходаў у глыб мацерыка на санна-гусенічных цягніках і ў час навуковых палётаў. Савецкія навуковыя цягнікі прайшлі па паверхнасці Антарктыды больш 17 тысяч кіламетраў.

Сярод многіх навуковых палётаў трэба падкрэсліць беспасадачны пералёт ад Індыйскага прыбярэжжа Антарктыды да Ціхаакіянскага праз Паўднёвы геаграфічны полюс, а таксама беспасадачныя палёты на Полюс адноснай недаступнасці.

# ТАЙНЫ ШОСТАГА КАНТЫНЕНТА

### ЛЕДЗЯНЫ ШЧЫТ АНТАРКТЫДЫ

Магутная ледзяная пакрыва Антарктыды прадстаўляе магутную крыніцу холаду. У сучасны момант агульная цыркуляцыя атмасферы і звязаныя з гэтым работы доўгатэрміновых прагноз пагоды для розных раёнаў зямнога шара не можа вырашацца без выкарыстання даных аб гідраметэаралагічным рэжыме Антарктыды.

Ва Усходняй Антарктыдзе савецкімі геолагамі вывучаюцца чорныя




кражы, складзеныя старажытнейшымі горнымі пародамі. Абнаружаны там карысныя выкапні, магчыма што можна будзе іх дабываць. Адкрыта новыя перспектыўныя раёны плавання кітовых стад.

Агромны ледзяны панцыр прадстаўляе сабою галоўную асаблівасць Антарктычнай вобласці. Характарыстыкі гэтага шчыта па плошчы большага чым Еўропа альбо Аўстралія. Аказалася, што сярэдняя таўшчыня ледзянога шчыта складае блізка 2500 метраў, а аб'ём знаходзячагася там лёду блізка 30 мільёнаў кубічных кіламетраў. Максімальная таўшчыня шчыта перавышае 4 кіламетры. Сярэдняя тэмпература ў верхніх гарызонтах лёду вельмі нізкая, месцамі ніжэй 56 градусаў холаду. Зараз ужо ў многім стаў вядомы падлёдны рэльеф Антарктыды. У цэнтры мацерыка пад лёдам знаходзіцца абшырная горная краіна, якая працягваецца больш як 1000 кіламетраў і з высотамі больш 3-х кіламетраў пад узроўнем мора.

Яшчэ больш абшырная вобласць прымыкае да паўднёвага геаграфічнага полюса. Яна даўжынёю звыш 2000 кіламетраў, занята падлёднай раўнінай з вышынёю блізкаю да ўзроўня мора. Гэткім чынам вырысоўваюцца контуры старажытнага мацерыка, пахаванага больш мільёна год назад ледзянымі пластамі.



Савецкім геолагам удалося даследваць блізка 700 кіламетраў горнай краіны на Зямлі Каралевы Мод між 4 градусам заходняй і 15 градусам усходняй даўжыні. Гэта, прыкладна, адна трэцяя горнай краіны, так як Зямля Каралевы Мод у шырокім напрамку працягваецца на дзве тысячы кіламетраў.

Зямля Каралевы Мод парадзіла савецкіх геолагаў шчодрасцю і велічынёй жыльных цел, якія пераважна ўтрымоўваюць карысныя выкапні. Каштоўнасць гэтых прыродных багаццяў такая, што яна можа апраўдаць іх перапрацоўку ў цяжкіх умовах Антарктыкі. Савецкія вучоныя адкрылі і нанеслі на карты блізка 300 новых геаграфічных аб'ектаў у Антарктыцы, у тым ліку вялікія горныя хрыбты, плато і даліны, залівы і астравы. Плато Савецкае нанесенае на карты ў 1959 годзе займае цэнтральную частку антарктычнага ледзянога шчыта і мае плошчу блізка 600 тысяч квадратных кіламетраў, працяжнасць даліны міжнароднага геафізічнага года, якая паявілася на картах таксама ў 1959 годзе, складае 1300 кіламетраў.

На Антарктыдзе, у сярэднім, на паверхнасці кантынента за год адкладываецца блізка 130 міліметраў асадкаў, што эквівалентна 1.830 кубічным кіламетрам вады на плошчу 14,1 мільёна квадратных кіламетраў. Расход лёду пры адколе айзбергаў складае толькі блізка 730 кубічных кіламетраў у год. Такім чынам ледзяны антарктычны шчыт па сучасным падлікам, штогод нарастае прыкладна на 1100 кубічных кіламетраў.

Ахалоджваючы ўплыў Антарктыды расшыраецца далёка на поўнач пры дапамозе паветраных патокаў і акіянскіх цячэнняў. Прыбярэжная зона мацерыка з'яўляецца асноўнай вобласцю фарміравання халодных глыбінных вод Міравога акіяна. Гэтыя воды плывуць далёка на поўнач, перасякаюць экватар і аказваюць вялікі ўплыў на клімат. Вывучэнню іх фарміравання і руху былі прысвечаны марскія экспедыцыі, на матэрыялах якіх былі пабудаваны падрабязныя карты акіянскіх цыркуляцый Паўднёвага акіяна.

---

**АБ ЧЫМ ДОБРЫ ГАСПАДАР ВЕДАЦЬ ПАВІНЕН**

## Закончылася жніво. Паплёны.

Добры гаспадар, скасіўшы жыта, пшаніцу, або ячмень, павінен адразу ўзараць іржышча. Ворыва можна і трэба правесці яшчэ да часу звозкі збожжа з поля. Ранняе выкананне гэтых прац неабходна таму, што: 1 — спыняе выпароўванне вады з глебы і не дапускае да празмернага высыхання зямлі. Ва ўзараную глебу дастаецца таксама больш вады і даўжэй яна там трымаецца. 2 — Ва ўзараным іржышчы хутка размнажаюцца бактэрыі, якія прысяпшаюць гніццё пасляжніўных рэштак (іржэўнік, пустазелле), а з гэтых рэштак менавіта паўстае перагной (прухніца).

Узараўшы іржышча, нельга пакідаць зямлю, каб яна ляжала бескарысна. Найлепш пасеяць **паіржышчавыя культуры (паплёны)**. Да гэтых культур належаць: лубін, выка, пялюшка, сарадэля, кармавая капуста, грэчка, канюшына, белая гарчыца, сланечнік. Расліны гэтыя можна сеяць чыстымі або мяшаць паміж сабою. Лепш аднак сеяць мяшанкі. Напрыклад, на нашыя глебы вельмі добра падыходзіць мяшанка лубіну жоўтага кармавога з пялюшкай, выкай ці сарадэляй (120—150 кг лубіну і 80—100 кг пялюшкі або выкі; 150—160 кг пялюшкі і 60—70 кг лубіну на гектар).

Вельмі добрым паплёнам з'яўляецца сланечнік, сеяны мяшанкай з пялюшкай або ярай выкай, а нават чыстым. Расце ён хутка і дае многа зялёнай масы (12—15) кг сланечніка і 120—150 кг пялюшкі на гектар). Паплён сланечніка зрэзаць трэба перад заквітаннем.

У пазнейшы час можна сеяць такія паплёны (яны хутка растуць): алеістую рэдзьку, грэчку, белую гарчыцу.

Сеянне паплёнаў — вельмі важнае ў гаспадарцы. Дае падвойную карысць: паплёны угнойваюць глебу і гаспадар мае з іх добры корм.

Мы коратка напісалі тут аб паплёнах, спосабах іх сеяння. Калі каго з вас пацікавіць дакладней ведаць нешта аб паплёнах — няхай напіша, адкажам дакладней.

вл.




# ЗЯЗЮЛІ

Ці вы знаёмы, мілыя чытачы, з зязюлямі?

Зязюля — птушка празмеру хітрая. Яна не толькі ашуквае нас, калі мы лічым «ку-ку», гадаючы, колькі нам год засталося жыць, але нават другіх птушак абдурвае. Апрача хітрасці, у зязюлі гультайства хоць адбаўляй. З прычыны гэтага гультайства зязюлі жывуць наогул як «беспрызорныя», гнёздаў не ўюць і знаходзяць сабе дом пад кожным карчом. Хто іх ведае, мо' бяруць яны прыклад ад некаторых грамадзян — гультаёў, якія на работу ідуць бокам, а з работы скокам.

Затое нахальства ў зязюлі больш, чым у кірмашных гандлярак. Напрыклад, збіраецца працавітая птушачка, па ўсім птушыным законам, на яйках пасядзець, а побач у гушчары галінак зязюля прымасцілася. Зязюлін самец тут як тут, і дзярэ горла як п'яніца — хуліган. Да таго ж праціўна раве гэты самец, што працавітая птушачка зрываецца з гнязда ў пошуках суродзічаў, каб памаглі адагнаць нахалу - крыкуна.

Зязюля гэтага толькі і чакала. Яна прымасцілася ў чужым гняздзе і свае яйка ўкладае.

Калі гаспадыня гнязда з птушынай адукацыяй і матэматыку ведае, вярнуўшыся далічыцца лішняга яйка. Зязюля — птушка прадбачлівая. Падлажыўшы ў чужое гняздо сваё яйка, яна дзюбай бярэ чужое і з гнязда выкідае. Самец ужо не раве. Ён ціха сядзіць і чакае, калі каханая аферыстка з нячыстай справай справіцца. Калі птушачка - пліска вернецца і, падазраваючы нешта, пачне кляваць падкінутае яйка — гэта не зменіць справы. Падложанае яйка мае тоўстую і моцную шкарлупіну, якую разбіць толькі вароне пад сілу.

За лёс сваіх дзяцей зязюля, так як некаторыя бацькі, што не хочуць плаціць аліментаў, зусім не турбуецца.

Чужая птушачка высядзіць птушаня, выкарміць, а калі зязюлін падкідыш перарасце сваіх равеснікаў, сам пачынае абманываць добрую мачаху - плісачку.

Патрабуючы ежы, ён раскрывае дзюбу і паказвае такое ж жоўтае горла, як у яе законных дзяцей. Калі малая пліска не патрапіць накарміць большага ў два разы ад яе пражору, ён у час яе адсутнасці выпіхае нагой з гнязда адно, а то і двое родных дзяцей пліскі. Пасля двух месяцаў зязюлін падкідыш вылятае з гнязда, пераходзячы на ўласнае ўтрыманне.

Мілыя чытачы, ці зязюлі не нагадваюць вам некаторых нашых грамадзян, што каля працоўных людзей круцяцца?

Такі трутень — чалавек, дзе кісель, там прысеў, а дзе пірог, там і прылёг. Яму толькі замясці ды ў рот паднясі.

Невядома толькі ці зязюлі ад такіх людзей узялі прыклад, ці людзі ў зязюль навучыліся гэтага спрыту. А мо' хто з чытачоў у гэтым разбіраецца?

*Дзядзька Лявон*

## У АТЕЛЬЕ «НАТО»




— О, у гэтым касцюме вы выглядаеце... на дваццаць год маладзей!..

## САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### ЧЫЯ КАРОВА

Аднаго разу па балоце хадзіла карова з цялём.

— Чыя гэта карова? — пытаецца маці ў дачкі.

— Я не ведаю, чыя карова, — кажа дачка, — але ведаю, чыё цялё.

— А чыё? — пытаецца маці.

— Гэтай каровы, — адказвае дачка.

**Пеця Вішнеўскі**
Рыбалы

### ПЕРАПРАСІЎ

— Цяжкае ў мяне жыццё, — гаворыць адна жанчына другой. — Ужо 6 год як муж мяне пакінуў.

— А як гэта ў Вас трое дзяцей ніжэй шасці гадоў аказалася? — пытае тая.

— А гэта проста так, што муж праз некаторы час прыходзіць і перапрашае мяне.

**Ірэна Цэкала**
Сапава

### ПАМІЖ СУСЕДЗЯМІ

— Дарагі суседзіку, — кажа п'яніца суседу, — пазыч мне 100 зл на адзін дзянёк.

— Не, так я не магу, — адказаў той, — але ахвотна пазычу табе 1 зл на сто дзянькоў.

### ПРЫМАНКА

Дзяўчаты, гуляючы на мосце, пытаюць рыбака, чаму ён кожную нядзелю вудзіць рыбу ў тым самым месцы.

— Таму, — кажа рыбак, — што рыба ад мора заўсёды плыве ў верх ракі. Яна, пераплываючы тут, трапляе на маю прыманку, пасля на патэльню і закуска гатова.

— А чаму гэта вы, дзяўчаткі, — пытае рыбак, — кожную нядзелю гуляеце на гэтым месцы?

— Таму, — кажуць дзяўчаты, што куды б нашы хлопцы не ішлі, яны абавязкова праходзяць праз мост, трапляюць на нашу прыманку, пасля ў Загс і муж гатовы.

**Кастусь Белюк**
Сідарка

**Слова народнае... Празрыстае і чыстае, як крынічная вада, трапяткое, трапнае, непаўторнае. Усімі колерамі вясёлкі зззяе яно ў песні, у частушцы, прыказцы і загадцы. Яно нараджаецца кожны дзень, і часта можна толькі дзівіцца, з якой аператыўнасцю адгукаецца народ на самыя разнастайныя падзеі нашага жыцця.**

**Ніжэй мы змяшчаем фальклорныя матэрыялы, запісаныя ў БССР у апошні час.**

## Частушкі аб асваенні космасу

У савецкае навукі
Поспехі магутныя —
Ззаду нас даўно пляцецца
Амерыка смутная.

Наша тэхніка мацнее
З дня на дзень і з году ў год.
Сёння ў космас чалавека
Пасылае наш народ.

Ў неба зорачка ўзнялася
Доўга я услед глядзеў.
Наш Гагарын Юрый ў космас
На ракеце паляцеў.

Ой, ракета ты ракета,
Ты — сястра мне родная.
Юрыю Гагарыну —
Слава ўсенародная.

Мілы грае на гармоні,
Я лявоніху скачу.
Можа, заўтра у ракеце
Разам з Юрам палячу.

Усё б я пела, усё б я пела,
Усё б я весялілася,
Каб ў ракеце разам з Юрам
У космас пусцілася.

Ой, дзяўчаты, ой, дзяўчаты.
Што ў вас за натура?
Шкадуеце, што жанаты
Наш Гагарын Юра

### НЕРАШУЧАСЦЬ




— Бачыце... я... хачу сказаць, што я вас... як гэта лепш сказаць...



— Няўжо ніхто так і не ўспомніць, што мы сеялі на гэтым полі?

### АВЁС НЕ ВЫЛЯГАЕ

У жыхара вёскі Клюковічы — О. А. у аўсе на полі шмат чортапалоху.

— Чаму ты яго не вынішчыш? — пытае сусед.

— Навошта? — адказвае той. — Гэта добра, бо авёс не вылягае.

**Іван Пушкарэвіч**
Клюковічы



— Ага, гэта Ваня!